*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

№ 130 (1195)
Пятніца, 20 ліпеня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

### Надвор'е

Сёння ўдзень па краіне чакаецца пераменная воблачнасць, у Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай абласцях пройдуць кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёвы, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Мінску, Магілёве, Гродне — +23...+25, Брэсце, Гомелі — +28...+30.

21 ліпеня ноччу па захадзе, а ўдзень месцамі па краіне чакаюцца ліўневыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы — +14...+19, удзень — +22...+27.



ПУЛЬС

## Пракуратура пацвярджае фальсіфікацыі

Каля месяца таму Беларускі Хельсінкскі камітэт звярнуўся ў пракуратуру з просьбай узбудзіць крымінальныя справы па фактах парушэнняў, якія былі дапушчаны на стадыі фарміравання тэрытарыяльных камісій па выбарах прэзідэнта. БХК таксама прасіў пракуратуру прыцягнуць да адказнасці вінаватых і ўнесці пратэсты на сумесныя рашэнні выканкамаў і прэзідыумаў Саветаў дэпутатаў па стварэнні адпаведных тэрытарыяльных камісій з-за грубых парушэнняў законнасці.

Вынікі пракурорскіх праверак, як паведамляе БХК, пацвярджаюць абгрунтаванасць зваротаў у пракуратуру. Напрыклад, праверка пракуратуры Аршанскага раёна пацвердзіла неправамоцнасць сходу працоўнага калектыву Высокаўскага прафтэхвучылішча № 166 па вылучэнні кандыдата ў члены тэрытарыяльнай выбарчай камісіі. Так, на сходзе, які вёў прадстаўнік выканкама, прысутнічала толькі трэць саставу працоўнага калектыву, не быў абраны прэзідыум, а пасля заканчэння сходу складзены фальшывы пратакол. Па выніках праверкі пракурор Аршанскага раёна накіраваў пратэсты на сумеснае рашэнне прэзідыума райсавета і райвыканкама.

**Наталля КУЛАГІНА**

## "Выбірай!"

Беларуская арганізацыя працоўных жанчын (БАПЖ) распрацавала ўласны комплекс мерапрыемстваў у рамках грамадскай кампаніі "Выбірай!". Іх мэта — заклікаць жанчын да свядомага ўдзелу ў выбарах, растлумачыць ім неабходнасць галасавання менавіта 9 верасня, а не датэрмінова, каб зменшыць верагоднасць фальсіфікацый, а таксама стварыць пазітыўны настрой напярэдадні выбараў кіраўніка дзяржавы.

У рамках кампаніі ў 12 гарадах Беларусі плануецца правесці семінары-сустрэчы, прысвечаныя канстытуцыйным правам асобы — на спрыяльнае навакольнае асяроддзе, на адукацыю, на дастойнае жыццё і іншыя.

**Наталля КУЛАГІНА.**

## Заклікаюць Ул.Пуціна і Л.Кучму адмовіцца ад сустрэчы з А.Лукашэнкам

Міжнародная Хельсінкская федэрацыя, Беларускі Хельсінкскі камітэт, Маскоўская Хельсінкская група і Украінскі камітэт "Хельсінкі-90" звярнуліся да прэзідэнтаў Расіі і Украіны Уладзіміра Пуціна і Леаніда Кучмы з просьбай адмовіцца ад наведвання Беларусі да заканчэння выбарчай кампаніі ў гэтай краіне і, у прыватнасці, адмяніць запланаваную сустрэчу трох прэзідэнтаў на закрыцці Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" 25 ліпеня.

"Нашы арганізацыі працяглы час падкрэслівалі сур'ёзнасць сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Мы шматразова зазначалі, што выбары і рэферэндумы, на якіх грунтуецца дзеючы рэжым, не могуць лічыцца свабоднымі і сумленнымі", — гаворыцца ў пасланні. Аднак, зазначаецца ў дакуменце, "сёння няма прыкмет паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека". "Наадварот, з'явілася новая інфармацыя, якая ўказвае, што вышэйшыя службовыя асобы дзяржавы, верагодна, маюць дачыненне да сур'ёзных злачынстваў, датычных невытлумачальных "знікненняў" вядомых грамадзян Беларусі", — канстатуюць праваабаронцы.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Маці Юрыя Захаранкі стала дрэнна...

Як паведаміла "Народнай волі" пляменніца зніклага ў 1999 годзе былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі Святлана, калі маці Юрыя Захаранкі прачытала ў газеце апошнія навіны пра лёс свайго сына, ёй стала дрэнна — яна прама на вуліцы страціла прытомнасць. Усім пасёлкам ёй выклікалі "хуткую дапамогу", і жанчыну ўдалося выратаваць.

Ульяна Рыгораўна Захаранка, як вядома, зараз жыве адна ў гарадскім пасёлку Васілевічы Гомельскай вобласці. Некалькі гадоў таму яна страціла мужа, потым памёр яе старэйшы сын, а два гады таму скралі малодшага — Юрыя. Як сведчаць суседзі, маці міністра кожны дзень па некалькі гадзін сядзіць каля сваёй хаты ў Васілевічах і чакае "Народную волю", чакае новых звестак і плача, плача, плача...

**Алесь СІЛІЧ.**

## Заблытаўся...



Як вядома, з 18 па 19 ліпеня адбыўся афіцыйны візіт у Беларусь старшыні Кітайскай Народнай Рэспублікі Цзян Цзэміня. Вынікі візіту мы падвядзём у наступным нумары "Народнай волі". А зараз раскажаем аб кур'ёзным выпадку, які здарыўся ў Нацыянальным аэрапорце "Мінск" пасля таго, як кіраўнік КНР ужо пакінуў пляцоўку каля самалёта. Калі адзін з удзельнікаў кітайскай дэлегацыі знаходзіўся на дывановай дарожцы, узняўся парыў ветру, які падняў дарожку ўгору і кінуў яе на кітайца. Член дэлегацыі ўпаў і заблытаўся ў ёй.

Спадзяёмся, што гэты інцыдэнт ніяк не паўплывае на безумоўна моцныя сяброўскія адносіны паміж Беларуссю і Кітаем.

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

ШЧЫРА

# Абаронім Айчыну: ад галечы, ад страху, ад хлусні, альбо Чаму я іду ў прэзідэнты

**Павел КАЗЛОЎСКІ,**
**першы міністр абароны Рэспублікі Беларусь.**



Фота IREX/ProMedia

Чытачы "Народнай волі" ведаюць аб маім намеры ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах у якасці кандыдата. Перш чым зрабіць такі адказны крок, я ўзважыў усе "за" і "супраць", параіўся з сям'ёй, улічыў пажаданні сяброў. Мая жонка, Наталля Рыгораўна, прайшла са мной, як кажуць, "агонь, ваду і медныя трубы", паездзіла па гарнізонах, выпрабавала ўсе нягоды і страты воінскай службы. Разам мы выгадавалі траіх дзяцей: дачку і двух сыноў. У мяне чацвёра ўнукаў. Сёння мая жонка, уся мая сям'я цалкам падтрымліваюць мяне ў маім рашэнні.

Цудоўна разумею, у якой краіне мы жывём, у якім сярэднявечным запаведніку бяспраўя, уседазволенасці з боку ўлады знаходзімся, у якой галечы апынуліся многія людзі. Прымаючы рашэнне ўдзельнічаць у выбарах і адкрыта заяўляючы аб гэтым, я ўсвядамляю, чаму падвяргаю сябе і маю сям'ю: гэта і тоны бруду з боку прыдворных прапагандыстаў, і ганенне, і пагрозы. Такі ціск даўно існуе. Сумнавядомы рэжысёр Азаронак адкрыта хлусіць у сваіх "Патаемных спружынах палітыкі", калі абвінавачвае мяне ў развале арміі, у нейкіх міфічных этнічных чыстках. Рэгулярна зневажае мой гонар і годнасць тэлеагітатар Зімоўскі. У паездках па рэгіёнах мяне заўсёды праследуе "хвост". Нядаўна, як вядома, у маёй машыне ноччу выкруцілі болт, і мы ледзь не трапілі ў аварыю. Невядомыя тэлефануюць з пагрозамі майму малодшаму сыну Паўлу. Я вымушаны прымаць меры для таго, каб абараніць маю жонку і дзяцей.

Хачу сказаць азаронкам і ўсім тым, хто так хоча, каб я адмовіўся ад сваіх намераў: мяне не запалохаць! Як прафесійны вайсковец, як генерал я адступаць перад цяжкасцямі не прывык. І гэта не высокія словы, а жаданне дамагчыся перамен да лепшага. Для маёй сям'і! Для маёй Беларусі!

Што падштурхнула мяне на такі адказны крок, спытаеце вы? Перш за ўсё вялікая занепакоенасць тым, што адбываецца сёння ў нашай краіне. А гэта страшэннае і амаль штодзённае парушэнне правоў чалавека, знікненне людзей, у тым ліку і такіх вядомых, як генерал-маёр Юрый Захаранка, першы віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Віктар Ганчар, бізнесмен Анатоль Красоўскі, аператар ГРТ Дзмітрый Завадскі. Усе вы ведаеце, што на Украіне забойства журналіста Георгія Гангадзе прывяло да глыбокага палітычнага крызісу і ледзь не каштавала крэсла прэзідэнту Леаніду Кучме. А як у нас? Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, за некаторым выключэннем, амаль што не займаюцца "гучнымі справамі" і не выказваюцца ў абарону скрадзеных палітыкаў і журналіста. Некаторыя, канешне, спрабуюць штосьці зрабіць. Але ж гэтага недастаткова! Патрэбен сапраўдны рэзананс у грамадстве. Я наведваў маці Юрыя Захаранкі ў Васілевічах і бачыў яе слёзы. Я веру яе слязам, але не веру ўсёй той хлусні, якую распаўсюджваюць сёння дзяржаўныя СМІ.

Я вельмі заклапочаны катастрафічным станам эканомікі Беларусі. Сёння, як вядома, каля 80 працэнтаў нашых грамадзян жывуць за рысай жабрацтва, многія людзі, асабліва пенсіянеры, студэнты, работнікі бюджэтнай сферы забылі смак мяса, дзеці — як выглядаюць добрыя цацкі, дарослыя ходзяць у латанай-пералатанай вопратцы, працуюць на дзвюх-трох работах, а водпуск праводзяць на чатырох палітых потам сотках.

Мяне клапоціць крытычны стан беларускай арміі, яе небаяздольнасць. Сёння рэальныя патрабаванні арміі забяспечваюцца, як я ўжо пісаў, не больш чым на 5—7 працэнтаў. З арміі сыходзяць маладыя афіцэры, а тыя, хто застаецца да пенсіі, ледзь трымаюцца.

Мяне турбуе атмасфера страху, якая навязана грамадству цяперашняй уладай, сёння людзі баяцца адкрыта выказаць сваю думку ў транспарце, па тэлефоне, нават у завадскіх курылках. Яны шэпчуцца і са страхам аглядваюцца, як у эпоху Іосіфа Сталіна.

Мяне турбуе раскол у грамадстве, у якім вінавата зноў жа існуючая ўлада. Некаторыя мае добрыя знаёмыя баяцца са мной вітацца толькі таму, што я не з'яўляюся прыхільнікам Лукашэнкі. На "чэсных" і "нячэсных" сёння раздзелены ўсе — палітыкі, эканамісты, журналісты і нават артысты.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ОНИ — О НАС

## "Караул" устал...

90 процентов опрошенных представителей высшей белорусской номенклатуры в той или иной степени не доверяют Александру Лукашенко. Эти данные закрытого опроса, проведенного недавно, были обнародованы на днях влиятельным московским еженедельником "КОММЕРСАНТЪ-ВЛАСТЬ".

Статья носит красноречивый заголовок: "Батька сделал свое дело", который как бы подразумевает логическое продолжение: "Батька должен уйти". Корреспондент "Ъ" Г.Сысоев анализирует ситуацию, сложившуюся в Беларуси накануне президентских выборов, особое внимание уделяя как раз мнениям и настроениям тех, кого принято называть "элитой", в том числе высокопоставленных чиновников. А вывод, к коему пришло большинство из них, считает автор, однозначен: "Лукашенко несостоятелен как топ-менеджер государственного уровня". Данные же соцопроса, приведенные выше, расцениваются в статье как "приговор номенклатуры всенародному Батьке".

Усталость ближайшего административного "караула" Лукашенко очевидна, и свидетельств тому с каждым днем все больше. Причем, как отмечает Г.Сысоев, 45 процентов высокопоставленных госслужащих, заполнявших анкеты закрытого опроса, свою позицию на грядущих выборах напрямую увязывают с позицией России. И хотя Москва, пишет автор, пока что выжидает, "...откровенной поддержки Лукашенко, на которую он очень рассчитывает, явно не будет".

В статье проводятся параллели между событиями прошлогодней борьбы сербов против режима Слободана Милошевича и сегодняшними реалиями Беларуси: "Интересно, что белорусский президент вспоминает о Югославии даже тогда, когда его об этом никто не спрашивает. На мой вопрос, с чего бы это, один из активистов белорусской оппозиции ответил: "У кого что болит, тот о том и говорит".

Сходство с югославскими событиями видится корреспонденту "Ъ" еще и в том, что оппозиция активно использует "наглядную агитацию" в виде небольших ярких наклеек-стикерсов, две из которых — "Всегда на канале БТ телепузик Лу-Лу" и "Надоел!" — даже полноцветно воспроизведены на страницах журнала. Авторство их, правда, не указывается, однако мы можем сообщить, что идея принадлежит лидеру молодежи Объединенной гражданской партии Алесю Корниенко.

**Павел ВЛАДИМИРОВ,**
**пресс-служба ОГП.**

*Пр. Еўдакі, Ефрасінні, Марыі, Акакія, Германа, Лук'яна, Фамы.*
*К. Геранiма, Часлава.*

145 гадоў з дня нараджэння Ч. Г. Пяткевіча (1856—1936), беларускага і польскага этнографа, фалькларыста.

ЛІПЕНЬ
20
ПЯТНІЦА

Усход 5.04
Захад 21.27
Даўж. дня 16.23

Маладзік
22.45
Усход 4.25
Захад 22.11

2001

ВЧЕРА



## Пострадали за "Свободу Тибету"

Неизвестные и солдаты внутренних войск задерживают членов незарегистрированного движения "Зубр" во время антикитайской акции протеста на Октябрьской площади под лозунгом "Свободу Тибету", Минск, 19 июля 2001 года. Несколькими минутами ранее по проспекту Скорины проехал кортеж китайского президента. Акция продолжалась не более трех минут, все ее одиннадцать участников были задержаны солдатами внутренних войск и неизвестными в штатском.

**Фото IREX/ProMedia.**

## Як брэсцкія "зубры" лакалізавалі сенную ліхаманку

Пятніца, 13 ліпеня. Менавіта ў гэты "чорны" дзень ліпеня брэсцкія "зубры" адлюстравалі ў сваёй акцыі адзін з самых чорных бакоў сучаснай беларускай рэчаіснасці. Гэта так званая "сенная ліхаманка", эпідэмія якой ужо не першы год гуляе па калектывах гарадскіх школ, шпіталяў, дзіцячых садкоў ды іншых установаў. Справа ў тым, што кожны год працоўныя калектывы раптам перастаюць займацца сваёй звычайнай працай і па гададзе мясцовых улад масава цягнуцца ў калгасы нарыхтоўваць сена. Нікому няма паратунку ад гэтай хваробы, пакуль ён не нарыхтуе не менш 400 кілаграмаў сена.

Адзіным прафілактычным сродкам ад немачы на сёння з'яўляецца грашовы водкуп. Але ж тых грошай меншае і меншае. Вось чаму "зубры" прапанавалі новы радыкальны метад лячэння.

На вуліцы Маскоўскай у цэнтры Брэста яны пачалі касіць імправізаваную траву. Касінеры ўяўлялі сабой слаі насельніцтва, найбольш падвержанае хваробе — настаўнікі, бізнесмены. Косамі ды сярпамі яны не здолелі даць рады сену, і тады схапіліся за нажніцы. І вось тут з натоўпу выскачыў галоўны разносчык інфекцыі, апрануты ў хакейны шлем, з клюшкай у руках, з характэрным зачосам. Бачачы небаяздольнасць інтэлігенцыі, "Самы" пачаў вучыць касіць сена клюшкай, прыгаворваючы: "Пацяраем учыцеля — капец, будзем хадзіць п'яныя і дурныя!". Растлумачыўшы сваю дасведчанасць тым, што ў дзяцінстве ён "рос среди растений и животных", "работал на селе и жил с мужиками", "Галоўны" стаў заклікаць усіх запар нарыхтаваць тону сена. За гэта ўжо заўтра паабяцаў выплаціць па 100—200 долараў. Многія людзі пачалі паддавацца каварнай хваробе. Але ў гэты самы час на дапамогу пацярпелым з'явіліся санітары і папярэдзілі грамадзян, што "вусаты" з'яўляецца разносчыкам сеннай ліхаманкі. "Вусатага" вылавілі, загрузілі ў машыну "хуткай дапамогі" і адвезлі куды трэба. Доктар-псіхатэрапеўт на развітанне сказаў, што такім чынам ліхаманку належыць лакалізаваць не толькі ў адным асобным горадзе, але і па ўсёй краіне. Грамадзянам трэба нарэшце зрабіць выбар на карысць уласнага здароўя.

**Алесь БЕРКУТ.**

ОБРАЩЕНИЕ

## Стране, как воздух, необходима смена экономического и политического курса



Дорогие соотечественники!

Рад сообщить вам, что необходимые для регистрации кандидатом в президенты подписи моей инициативной группой собраны. Знаю: от вас потребовалось гражданское мужество, чтобы выразить мне свои симпатии. Спасибо!

О собранных 100 и более тысячах подписей избирателей сообщили также избирательные штабы В.Гончарика и С.Домаша. Однако Лукашенко может пойти на злоупотребление властью и лишить любого кандидата, в том числе и меня, права на участие в президентских выборах. Поэтому я призываю всех, кто поставил подписи в мою поддержку, сделать то же самое еще и в отношении других альтернативных претендентов: П.Козловского, С.Калякина, М.Маринича, А.Ярошука, В.Терещенко, С.Антончика и др. Закон разрешает вам поставить свою подпись за каждого из них.

Нынешние выборы судьбоносны для белорусского народа. От их результата зависит, быть Беларуси свободным, богатым и счастливым государством или пойти по пути бесправия, диктатуры и нищеты. Лукашенко, как и семь лет назад, пытается обмануть избирателя, обещая золотые годы. Он снова напяливает на себя овечью шкуру, но мы хорошо знаем, кто под ней прячется. Дважды на одни грабли не наступим.

Ваша поддержка обеспечит избрание президентом одного из представителей демократического блока. Беларусь получит реальный шанс стать полноправным европейским государством. Закончатся страх и беззаконие внутри страны, насмешки и изоляция мирового сообщества. Возродится экономика. Повысится реальное благосостояние каждого гражданина.

Каждый гражданин Беларуси должен осознать, что судьбу своей страны решает именно он. Докажем на выборах, кто на белорусской земле подлинный хозяин.

Давайте держаться вместе!

**Михаил ЧИГИРЬ,**
**премьер-министр Беларуси в 1994—1996 гг.**

СМЕХАТУРА

## Як у Крычаве канфіскоўвалі амерыканскую тэхніку

Як ужо паведамлялася, супрацоўнікамі Крычаўскага РАУС у першай палове дня 12 ліпеня бягучага года ў мясцовым штабе па вылучэнні кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Сямёна Домаша была канфіскавана размнажальная і камп'ютэрная тэхніка, якая была прадастаўлена ў арэнду амбасадай ЗША і з'яўляецца ўласнасцю ЗША. Акрамя таго, міліцыянты забралі прыватныя рэчы і падпісныя аркушы з 512 подпісамі, сабранымі за С.Домаша. Актывісты штаба, якія адначасова з'яўляюцца журналістамі недзяржаўнага выдання "Вольны горад", Сяргей Няроўны, Мікалай Матoранка і Вадзім Сцефаненка былі затрыманы на трое сутак.

Адразу пасля канфіскацыі тэхнікі рэдактару "Вольнага горада" Сяргею Няроўнаму было прад'яўлена абвінавачанне ў парушэнні Дэкрэта прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №8 ад 12 сакавіка 2001 года, які рэгламентуе выкарыстанне замежнай бязвыплатнай дапамогі. Згодна з адміністрацыйным пратаколам, камп'ютэрнае абсталяванне, якое было прадастаўлена ў арэнду амбасадай ЗША, не было зарэгістравана ў Дзяржаўным дэпартаменце па гуманітарнай дапамозе пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і выкарыстоўвалася ў выбарчай кампаніі на карысць кандыдата ў прэзідэнты Сямёна Домаша.

Яшчэ ўвечары 12 ліпеня пачаўся разгляд справы па факце быццам бы зафіксаванага парушэння Сяргеем Няроўным сумнавядомага прэзідэнцкага Дэкрэта №8. 13 ліпеня працэс прадоўжыўся і, нарэшце, 17 ліпеня быў скончаны. Першыя два дні на суд сп.Няроўны быў дастаўлены басанож — менавіта ў такім выглядзе ён быў затрыманы міліцыянтамі.

У працэсе бралі ўдзел прадстаўнікі амерыканскай амбасады на чале з аташэ па пытаннях палітыкі Джой Л.Дэвіс.

Трэба адзначыць, што аргтэхніка была здадзена ў арэнду яшчэ ў верасні мінулага года, а прэзідэнцкі Дэкрэт дзейнічае толькі з 12 красавіка 2001 года. Такім чынам, дзеянне вышэйпазначанага нарматыўнага акта ніяк не можа распаўсюджвацца на гэтую тэхніку, бо закон не мае зваротнай сілы. Акрамя таго, Дэкрэт, сваім пунктам 1.1. абвяшчае неўмяшальніцтва ў спецыяльныя праграмы аказання дапамогі, якія былі адобраны ўрадамі ЗША і Беларусі ў 1996 годзе, а дадзеныя камп'ютэры, якраз і з'яўляліся вынікам такога міжурадавага пагаднення.

Падчас разбіральніцтва высветлілася, што ніводны з міліцыянтаў не мог выразна растлумачыць, на падставе чаго быў складзены пратакол і справа перададзена ў суд. Адзін з іх гаварыў, што Дэкрэт №8 мае зваротную сілу, другі — што не мае. Адзін сцвярджаў, што агітацыя ў газеце "Вольны горад", якая выпускаецца на амерыканскім абсталяванні, змяшчалася ў своеасаблівым фотаздымку А.Лукашэнкі, другі — у фотаздымку Сямёна Домаша. Хтосьці палічыў, што перадвыбарчая агітацыя — гэта тое, што актывісты перадвыбарчага штаба раздавалі на вуліцах газеты "Рабочы" і "Наша свабода", хтосьці — што яны проста збіраюцца разам. Словам, ніхто не мог канкрэтна сказаць, у чым парушэнне Дэкрэта.

Тады суддзі Крычаўскага раённага суда Уладзіміру Жандараву самому прыйшлося зачытаць два артыкулы, у якіх, на яго думку, была перадвыбарчая агітацыя.

Для высвятлення пастановы па справе сп.Жандараву спатрэбілася каля трох гадзін. Вынік — канфіскацыя амерыканскай аргтэхнікі і штраф у памеры 100 мінімальных заробкаў.

Застаецца дадаць, што ў адносінах да Сяргея Няроўнага, Вадзіма Сцефаненкі і Мікалая Маторанкі ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 183 п.1 КК РБ "Незаконное пазбаўленне волі" за тое, што яны быццам бы ўтрымлівалі сілком у сваім офісе супрацоўніка аддзела барацьбы з эканамічнай злачыннасцю Крычаўскага РАУС лейтэнанта Рыбчынскага.

**Андрэй КУЗЬМІН, кіраўнік інфармацыйнай службы "Кантакт-цэнтр".**

ВИДЕЛИ?

## 1000 новых граффити

Более 1000 новых надписей могут увидеть минчане на стенах и заборах города. В течение нескольких ночей на улицах работали несколько десятков групп "зубров", которые писали на стенах слова "Время выбирать!" и "ЗУБР". Кроме того, в некоторых районах на стенах были написаны номера пейджеров координаторов, а красивые рисунки, сделанные профессиональными художниками-графитчиками, ломают устоявшееся в головах некоторой части населения негативное отношение к настенным надписям. За несколько ночей были задержаны 7 активистов движения сопротивления.

Четверо "зубров" были задержаны возле стены, на которой были нанесены "антиправительственные" надписи "ЗУБР" и "Время выбирать!".

Ребята были доставлены в Первомайский РУВД, где их продержали до шести часов вечера. По факту написания граффити возбуждено уголовное дело по статье 218 УК. В деле ребята фигурируют в качестве свидетелей, но их направили на экспертизу для проверки наличия частиц краски на их руках.

Еще двое активистов движения задержаны 16 июля около 2.30. Сотрудники милиции остановили и обыскали Алексея Михайлова и Александра Отрощенкова возле дома №71 по улице Жудро, на стену которого был нанесен призыв "Время выбирать!". При обыске у "зубров" были обнаружены два баллончика с краской. Их доставили во Фрунзенский РОВД, где несовершеннолетний Михайлов был передан родителям, а на Отрощенкова составлен протокол по ч.3 ст.143 КоАП РБ. В нем сотрудники милиции указали, что ребята в момент задержания занимались распространением газет и наклеек (в половину третьего ночи!!!), а также умудрялись одновременно писать на стенах. Естественно, Отрощенков отказался подписать протокол, и милиционеры, продержав его до пяти часов утра, конфисковали баллончики и отпустили.

**Алесь БЕРКУТ.**

ЧУЛІ?

## У жніўні Беларусь пачне экспартаваць электраэнергію ў Польшчу

Плануецца, што ўжо напачатку жніўня Беларусь пачне прадаваць электраэнергію ў Польшчу. Як паведаміў БелаПАН старшыня Дзяржаўнага камітэта па энергазберажэнні і энергетычным наглядзе Леў Дубовік, электраэнергія будзе пастаўляцца з Бярозаўскай ДРЭС па дзеючай лініі да Брэста, а затым па спецыяльна пабудаванай лініі — да мяжы з Польшчай. На новай лініі ўжо праведзены выпрабаванні, яна знаходзілася пад напружаннем, а цяперашнім часам вырашаюцца пытанні рэлейнай абароны, аўтаматыкі і іншыя. Аб'ёмы паставак беларускай электраэнергіі ў Польшчу, паводле слоў Дубовіка, будуць невялікія, а сума, якую Беларусь плануе выручыць ад яе экспарту, "пакуль з'яўляецца камерцыйнай тайнай".

**Аляксей АРЭШКА.**

